# Працаўнік асьветы

**Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 3 (19) | 27 студзеня 1929 г. | № 3 (19)


## ЗЬМЕСТ.



# Інтэрнацыянальнае выхаваньне ў школах.

Пытаньне інтэрнацыянальнага выхаваньня ў школе—пытаньне ня новае Нашы праграмы па сваім характары і па сваім зьмесьце маюць дастатковы матар‘ял для інтэрнацыянальнага выхаваньня дзяцей, але, нажаль, гэта не гарантыя, што інтэрнацыянальнае выхаваньне ў сапраўднасьці праводзіцца ў тэй меры, у якой гэта павінна было быць у савецкай школе. Нацыянальная абмежаванасьць, нацыянальная розьнь, часам нават і нацыянальная нянавісьць, як рэшткі старой спадчыны, праз возныя шчыліны пралазяць у нашы школы і вядуць там сваю агідную, злосную, нават злачынную працу. І тут, як і ў шмат іншых выпадках, школа ня мае ўплыву на асяродзьдзе, а наадварот — сама зьяўляецца аб‘ектам яго ўплыву. Школа не зьяўляецца прагрэсыўнай установай, ня мае ўплыву на асяродак, не перавыхоўвае яго, ня зьнішчае старыя традыцыі і старую спадчыну, а наадварот—часта сама падпадае пад гэты ўплыў, і дзеці прыносяць з сабой у школу ўсё тое адмоўнае, што яшчэ ў значнай меры ёсьць у нашым быце.

У сучасны момант пытаньне аб інтэрнацыянальным выхаваньні з тэарэтычнага павінна стаць практычным, яно павінна заняць у нашай школе ня толькі выдатнае месца, але павінна стаць пэўнай часткай нашай працы ў школе. Усякія ўхілы нацыяналізму, шавінізму і антысэмітызму павінны быць у корані абарваны. Усе гэтыя зьявы павінны кваліфікавацца як зьявы, якія маюць контр-рэвалюцыйны характар, прыносячы шкоду савецкай уладзе і савецкаму будаўніцтву.

Практычна гэта пытаньне павінна паўстаць перад настаўніцтвам ва ўсёй шырыні. Школы ўсіх нацыянальнасьцяй павінны шчыльней зблізіцца. Вучні розных нацыянальнасьцяй павінны сустракацца ня толькі пры ўрачыстых выпадках, але і ў звычайнай працы, як супольныя клюбныя заняткі, дзіцячыя спэктаклі, вечары самадзейнасьці, часам супольная праца ў майстэрнях. Весьці папулярныя гутаркі на тэмы для бацькоў і насельніцтва аб тым, як савецкая ўлада вырашае нацыянальнае пытаньне для ўсіх працоўных. На лекцыях па грамадазнаўству як у малодшых, так і ў старшых клясах паказваць на сутнасьць савецкай дзяржавы, як дзяржавы, якая будуецца на саюзе ўсіх працоўных.

У школах з боку настаўніцтва павінна весьціся падрыхтоўка да ўсіх вышэйпаказаных мерапрыёмстваў. Фармальны падыход да пытаньня інтэрнацыянальнага выхаваньня шкодны. Дзеці вельмі чулыя, яны інстынктыўна адчуваюць, ці паважна ставіцца пытаньне, ці гэта толькі фармальны падыход да яго. І толькі тады, калі інтэрнацыянальнае выхаваньне стане неадзялімай часткай школы, не выпадковасьцю і не кампаніяй, а штодзённай працай, мы дасягнем пэўных станоўчых вынікаў.

Ужо некаторыя школы праводзяць працу ў гэтым напрамку; як прыклад, можна ўзяць **Лепельскі раён** (Полаччына). У адной з школ Лепеля настаўнік **Зубаў** правёў вялікую працу па ўцягваньню вучняў у ячэйку «ОЗЕТ». Пры школе арганізавана ячэйка і праведзена кампанія сярод вучняў па растлумачэньню значэньня і карысьці «ОЗЕТ». На настаўніцкай канфэрэнцыі гэтага-ж раёну абмяркоўвалася пытаньне аб уцягненьні настаўнікаў у «ОЗЕТ», а праз іх і вучняў. Была прынята адпаведная рэзалюцыя. Зразумела, што гэта яшчэ ня ўсё, гэта толькі адна частка вялікага пытаньня.

Цяжка пералічыць усе мерапрыёмствы, якія магчыма праводзіць, каб зьнішчыць тую цемру, якая яшчэ агортвае наша маладое пакаленьне. Тыя ці іншыя цяжкасьці ў нашым сацыялістычным будаўніцтве скарыстоўваюцца нашымі ворагамі, каб сеяць нацыянальную розьнь. Мы-ж у нашых культасьветных установах не павінны прапускаць ніводнага выпадку, каб укараніць у дзецях тыя ідэі, якія нам неабходны на карысьць працоўных. Мы павінны скарыстаць усе магчымасьці, каб уплываць на дзяцей у адпаведным напрамку. Трэба ўплыву някультурнаму і варожаму паставіць у процівагу наш уплыў. Школа ўзброена ведамі, марксысцкімі праграмамі, а ў барацьбе са старымі перажыткамі гэта—добры спосаб змаганьня. Гэта павінна разьбіць, зьнішчыць тую нацыянальную розьнь, якая патрэбна ворагам працоўных.

Праца цяжкая, адказная і марудная. Але ці-ж мы спынімся перад цяжкасьцямі? Ці-ж настаўніцтва ня будуе новую, марксысцкую школу? Ці-ж настаўніцтва ня прымае ўдзелу ў нашым грамадзкім жыцьці і часам з небясьпекай для жыцьця пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі не вядзе вялікую грамадзкую працу?

Інтэрнацыянальнае выхаваньне ў школе, гэта—ня толькі пытан не правільнага выконваньня нашых праграм, але гэта вялікая палітычная праца, якую настаўніцтва павінна выканаць

**С. Мар‘ясіна.**

# Скарыстаем вынікі першага паўгодзьдзя.

Дзеля таго, каб належным чынам скончыць навучальны год, неабходна зрабіць некаторыя падагульняючыя вывады за першае поўгодзьдзе. Любая праца дае добрыя плады толькі ў тым выпадку, калі ўстанова і адказныя кіраўнікі яе вядуць гэту працу па належна распрацаваным пляне. Якраз гэтай самай плянавасьці па вясковых школах нашага раёну і ня відаць.

Раённае мэтадычнае бюро галоўнай сваей задачай паставіла вывучэньне таго, як і па якім пляне вядзе сваю працу вясковая школа. І пры падагульненьні ўсе прышлі да таго, што ў адносінах плянавасьці вясковае настаўніцтва захоўвае тэндэнцыі 1919-21 гадоў, калі працавалі без належных падручнікаў, прыладаў, праграм, а таму і бяз плянаў. Але зараз ёсьць і падручнікі, і прылады, і праграмы, а таму магчыма было-б зьнішчыць расхлябанасьць у гэтых адносінах. Але прызвычаенасьць да руціны— вялікія перашкода ў працы. А таму ўсё ідзе па загартаванай раней дарожцы.

Нямала віны ў гэтай справе прыпадае і на долю нашай інспэктуры народнай асьветы. Інспэктары вельмі мала робяць спэцыяльных выездаў дзеля кантролю працы, рэдка прысутнічаюць на занятых, нікол і не праводзяць агульных вучнёўскіх сходаў. Таму і вучнёўскае самакіраваньне ў вясковых школах таксама стаіць на мёртвым пункце і ня йдзе далей санкамісіі.

Другім вялікім недахопам працы зьяўляецца тое, што іншы раз настаўнікі вельмі сьпяшаюцца з прахаджэньнем праграмнага матар'ялу, а гэта якраз і залежыць цалкам ад бясплянавасьці.

Адсутнічае сталы вучот працы. Некаторыя школы яго зусім не вядуць, а частка вядзе запісь у скарочаным выглядзе і не адзначае сваіх недахопаў, перашкод і таго, як працуюць самі вучні; не вядзецца вучот вучнёўскай самадзейнасьці.

Антырэлігійнасьць у выхаваньні амаль што зусім адсутнічае, таксама і інтэрнацыянальнасьць. Вывучэньне пазашкольнага жыцьця вучняў, іх хатніх умоў таксама школу ня цікавіла. Сувязь з насельніцтвам, з бацькамі вучняў таксама належным чынам не практыкавалася.

Зрабіўшы падагульняючыя вывады на сваіх пасяджэньнях, пэдрады па сельсаветах павінны ў першую чаргу зьвярнуць увагу на складаньне плянаў працы. У гэтай справе раённае мэтадычнае бюро бярэ на сябе кіраўніцтва і дапаможа праз найбольш працаздольных настаўнікаў. Інспэктарам асьветы належыць часьцей выяжджаць па школах, прычым, галоўную ўвагу трэба зьвярнуць на плянавасьць і на тое, як настаўнік разьмяркоўвае вучэбны час па па собных прадметах. Пасьля некалькіх такіх выездаў у бліжэйшым часе варта склікаць агульны сход настаўнікаў сельсавету, дзе і абмеркавацца усе заўважаныя інспэктарам хібы.

Пытаньне з самакіраваньнем вучняў трэба хутчэй зрушыць з мёртвага нункту. У вясковых школах вучні павінны прыняць самы шчыры ўдзел у школьным жыцьці праз свае камісіі і прадстаўнікоў у школьныя рады. Яны-ж павінны стварыць, а там, дзе існуюць — пашырыць і палепшыць якасьць насьценгазэты.

Якраз на другую палову навучальнага году прыпадае вясна з яе брудам і хваробамі. Праз органы вучнёўскага самакіраваньня школа павінна падрыхтавацца да яе.

Набліжаецца масьленіца, вялікі пост, вялікдзень; яны яшчэ моцныя сваімі рэлігійнымі традыцыямі. Школа і тут павінна сканцэнтраваць самую пільную ўвагу, увязаўшы ўсё выкладаньне з належнымі антырэлігійнымі тэмамі. Неабходна падрыхтаваць вучняў і на летні час па антырэлігійных пытаньнях.

Вучот працы, падагуленьне таго, што і як зроблена,—таксама павінна зацікавіць настаўнікаў, бо ўсё гэта патрбна для далейшага разьвіцьця школы. Тое-ж самае можна сказаць і пра сувязь з бацькамі вучняў. пра вывучэньне жыцьця вучня па-зашколай. Жыцьцё вучня па-за школай і яго хатнія ўмовы школе неабходна вывучыць неадкладна, каб у другой палове навучальнага году дапамагчы адстаючым правільна падыйсьці да вучняў пры пераводзе іх у наступныя групы.

Амсьціслаўль. Н—к.

# Экзамен—вораг нашай школы.

(Калінкавіцкі раён, Мазыршчына).

Выхаваўчая праца ў школах па Калінкавіцкаму раёну пастаўлена слаба. Гэта відаць з вытворчай канфэрэнцыі настаўнікаў, якая толькі што адбылася, аб гэтым сьведчыць шмат фактаў. Калёквіумы ператвораны ў экзамены, дзе інспэктар не сачыць і зусім ня цікавіцца выхаваньнем, а патрабуе толькі беспамылковага пісаньня і спрытных адказаў. Канчаюць школу больш заможныя і серадdespnякі, якія часьцей наведвалі школу. Ведаючы гэты бок калёквіумаў, настаўнікі гоняцца за вучобай, каб «не падкачаць» на экзаменах, а выхаваньне закінута.

Шмат настаўнікаў яшчэ не адмовілася ад «безрэлігійнага» выхаваньня, або баяцца стаць цьвёрда на антырэлігійны шлях у школе. Там, дзе школы праводзяць грамадзкую працу, адчуваецца і сацыялістычнае выхаваньне.

Неабходна з нашых школ выпускаць ня толькі добрых пісак (хоць і антысэмітаў, хуліганаў), а галоўнае—сьвядомых грамадзян, будаўнікоў сацыялізму. А дзеля гэтага неабходна:

каб падручнікі былі больш прасякнуты матар'ялам для антырэлігійнага, інтэрнацыянальнага і калектыўнага выхаваньня.

Забясьпечыць школы адпаведнай дзіцячай літаратурай.

Рашуча адмежавацца ўсім ад безрэлігійнага навучаньня, стаўшы цьвёрда на антырэлігійны шлях.

Школу зрабіць асяродкам грамадзкай працы.

Весьці працу па выхаваньню ня толькі ў школе, дзе дзіця знаходзіцца 4-5 гадзін, а і сярод дарослага насельніцтва.

Рашуча адкінуць калёквіумы як экзамены схалястыкі (такія яны ў нас ужо гадоў 4), правяраючы ў часе іх ня толькі веды пісьма, матэматыкі, а і выхаваньне, дзеля чаго іх зрабіць сьвятам школы і вёскі, а не папоўскай споведзьдзю (аб гэтым правільна напісана В. Лявонікам „Калёквіумы нельга ператвараць у экзамены"— «Працаўнік Асьветы» № 16).

Выпускаць з вясковай школы батракоў і бядняков, можа хоць крыху і менш ведаючых па мове і матэматыцы, але больш выхаваных, дзеля чаго больш зьвярнуць увагу на своечасовую матар'яльную дапамогу ім.

Нельга ў часе рэлігійных сьвят калядаў рабіць адпачынак для вясковых школ і склікаць канфэрэнцыі—рабіць „сьвята" школе і настаўнікам. Лепш зімовы адпачынак рабіць з 21 па 28 студзеня. В. Саргейчык.

# АСЬВЕТНІКІ Ў ПЕРАВЫБАРАХ САВЕТАЎ.

## Падцягнулася настаўніцтва Мазыршчыны.

Справаздачная кампанія саветаў па Мазырскай акрузе прайшла без належнага актыўнага ўдзелу некаторай часткі асьветнікаў, хоць гэтага нельга сказаць у адносінах другой часткі асьветнікаў, якая выканала свой грамадзкі абавязак.

Дзякуючы таму, што акруговым праўленьнем саюзу была завострана ўвага нізавых прафорганаў на пытаньні ўдзелу асьветнікаў у справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў, актыўнасьць асьветнікаў значна ўзрасла, і большая частка прымае актыўны ўдзел у выбарах у саветы.

Да перавыбараў у саветы падрыхтавалася школа і сам настаўнік. **У Каралінскім раёне** настаўніцтва вельмі актыўна прымае ўдзел у выбарчай кампаніі саветаў.

Напрыклад, у **Забозьеўскай школе** вучні наладзілі догляд за дзяцьмі дома, каб даць магчымасьць маткам наведваць выбарчыя сходы. Дзякуючы гэтаму, процант жанчын на сходзе значна павялічыўся ў параўнаньні з мінулымі перавыбарамі. Шмат у якіх школах вучні пісалі лёзунгі: „бацька і матка, ідзіце на перавыбары саветаў" і гэтыя лёзунгі, як агітацыйны матэр'ял, вывешвалі дома. Некаторыя школы ў навучальны плян свае працы ўключылі перавыбарчую кампанію саветаў, што дало магчымасьць дзецям практычна ў працэсе ходу кампаніі азнаёміцца з канстытуцыяй БССР. У некаторых школах вучні пісалі і разносілі позвы выбаршчыкам.

Уся праца вучняў праходзіла пад непасрэдным кіраўніцтвам настаўніцтва. Самі настаўнікі прымалі ўдзел у сходах беднаты, у складаньні наказаў, у высоўваньні і абгаварэньні кандыдатур, у агітацыі за яўку выбаршчыкаў на сходы.

Поруч з актыўным удзелам значнай часткі асьветнікаў у перавыбарчай кампаніі саветаў, назіраецца пасыўнасьць, недавучот палітычнай значымасьці кампаніі з боку паасобных асьветнікаў.

Вось, напрыклад, настаўніца вёскі **Вяжышча, Нараўлянскага раёну** зусім ня прышла на выбарчы сход, хоць і ведала аб сходзе і была папярэджана членамі выбарчай камісіі.

Настаўніца Петрыкаўскага раёну Аголіцкай школы **Несьцер** мела наступную размову з членамі выбарчай камісіі:

**Член. выбарч. камісіі:**—Т. настаўніца, ідзіце на выбарчы сход!

**Настаўніца:**—Не пайду, трэба сшыткі выпраўляць.

**Чл. к.**—Будзьце ласкавы, дайце стол для сходу.

**Настаўніца:**—Ня дам, трэба сшыткі выпраўляць.

**Член кам.:**—Т. настаўніца, дык нам-жа стол вельмі патрэбен, дайце!

**Настаўніца:**—Чаго вы прычапіліся, як смала.

Гэта настаўніца зьвярнулася са скаргаю да акруговага інспэктара, што да яе сельсавет «прычапляецца».

**Па Багуціцкаму сельсавету**, Каралінскага раёну, процант яўкі выбаршчыкаў на выбарчы сход 70, мінулыя перавыбары 54 проц.; процант яўкі жанчын—29, мінулыя перавыбары—15 проц.

Кандыдаты беднаты праходзяць на 90 проц.

Зацікаўленасьць працоўнага сялянства выбарамі вельмі значная, гэта падцьвярджаецца як узрослым процантам яўкі сялянства на выбарчыя сходы, так і тым, што атрымаўшы толькі позву, бяз іншых напамінаньняў, селянін ідзе на выбарчыя сходы.

**Яз. Мацюкевіч.**

## Адзіным фронтам.

(Пухавіцкі раён, Менскай акругі).

Справаздачная кампанія праходзіла пры нязначным уздыме. Былі хібы як з боку кіруючых органаў, так і саміх працаўнікоў. Былі выпадкі, калі настаўнік не дазваляў правесьці сход у школе, нязначная частка настаўніцтва ня прысутнічала на сходах.

Зусім другі малюнак маем пры перавыбарах. На ход гэтай кампаніі зьвярнуў увагу райкампарт. Гэта пытаньне было завострана перад раймясцкомам працасьветы. На канфэрэнцыі асьветнікаў раёну 2-4 студзеня ставілася гэта пытаньне першачарговым. Выпрацаван цэлы шэраг практычных мерапрыёмстваў па ўдзелу ў перавыбарах. Рашылі правесьці бацькоўскія сходы па школах, дзе абгаварыць пункты наказу на карысьць школы. Дзень перавыбараў зрабіць сьвяточным—правесьці днём дэманстрацыю. Праз вучняў апавясьціць бацькоў аб яўцы на сходы. Вучні да 18-гадовага ўзросту застаюцца дома на час сходаў. Па ўсіх калектывах праведзены нарады асьветнікаў і вызначаны кандыдатуры ў склад будучага сельсавету. Настаўніцкія сілы разьмеркаваны па выбарчых вучастках. Разам з партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі праводзяцца перадвыбарчыя сходы беднаты і жанчын. Практыкуюцца падворныя абходы з удзелам настаўніцтва. **Нічыпаровіч.**

## Настаўнік Рулевіч сарваў сход.

(Заслаўскі раён, Меншчына).

Сьцямнела. Сяляне і сялянкі ідуць на выбары сельсавету. З песьнямі падышлі і чырвонаармейцы-пагранічнікі дзеля ўдзелу ў выбарах.

Прышоў і настаўнік **Рулевіч Уладзімер**, які зараз працуе ў школе **Старасельскага сельсавету, Заслаўскага раёну, Менскае акругі.**

Адчынілі сход. Старшыня сельскай выбарчай камісіі т. Парафенюк знаёміць прысутных, як і каго трэба выбіраць. І вось тут на дапамогу выступае настаўнік Рулевіч. Ён хутка арыентаваўся ў абставінах і сказаў кароценькую прамову такога, прыблізна, зьместу:

— Ня трэба дапускаць да ўдзелу ў выбарах чырвонаармейцаў, мы самі выберам каго захочам. Дурні вы, што дапусьцілі весьці сход ня нашага (а нашы—гэта кулакі).

На такую прамову настаўніка кулацкія элемэнты і іх падпявалы адказалі ласкавым хіхіканьнем, а потым хтосьці выкрыкнуў:

— Наша бяра! З намі і настаўнік!

Сяк-так супакоілі разюшаных кулакоў і перайшлі да выбараў членаў сельсавету. Настаўнік Рулевіч нашэптвае кулакам, каб не галасавалі за бядняцкія кандыдатуры, і кулакі ў супроцьвагу бядняцкім—высоўвалі кандыдатуры з сваіх.

Падняўся гам, сходка абярнулася ў кірмаш, а Рулевіч з вялікім самадавольствам пацірае рукі. Прэзыдыум сходу ня мае ніякай магчымасьці супакоіць буйствы кулакоў і іх падхалімаў з настаўнікам Рулевічам на чале, і выбарчы сход у вёсцы **Маляўках, Траскоўскага сельсавету**, быў сарваны.

Так настаўнік Рулевіч Уладзімер дапамог у выбарах сельсавету.

Гэты агідны факт і паводзіны настаўніка Рулевіча не павінны прайсьці міма ўвагі ўсёй нашай савецкай грамадзкасьці і нашага настаўніцтва.

Наша настаўніцтва павінна рашуча адмежавацца ад такіх настаўнікаў, як Рулевіч. **Сяргей Лодысеў.**

# Чакаем настаўніцкай крытыкі.

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва пачало выдаваць дзіцячую літаратуру яшчэ з сярэдзіны 1927 году. Да гэтага часу беларускай дзіцячай кнігі ня было зусім.

З аднаго боку гэта было добра, што мы не атрымалі ў спадчыну і не маглі карыстацца старой, дарэвалюцыйнай ідэалёгічна шкоднай дзіцячай літаратурай. Але пачынаць такую адказную справу на літаральна пустым месцы было для выдавецтва цяжкім заданьнем. Адсутнасьць выдавецкага вопыту ў гэтай галіне, адсутнасьць дзіцячых аўтараў, нехват знаёмых з гэтым пытаньнем рэдактароў, непадрыхтаванасьць нашых мастакоў да ілюстраваньня дзіцячае кніжкі, слабасьць тэхнічнага абсталяваньня і г. д.—усё гэта ставіла выдавецтва ў надта цяжкія ўмовы.

Аднак, ня гледзячы на ўсе перашкоды, выданьне дзіцячае літаратуры пашло шпаркім тэмпам. Голад на беларускую дзіцячую кнігу трэба было здаволіць у самы кароткі тэрмін.

Што-ж мы маем на сёньнешні дзень?

У першую чаргу выдавецтва імкнулася здаволіць чытача-школьніка. Для вучняў малодшага і сярэдняга ўзросту ёсьць ужо больш 30 назваў кніжак самага рознастайнага зьместу. Гэта ўжо цэлая бібліятэчка для пазашкольнага чытаньня. Каб выдзеліць гэтыя кнігі з агульнага ліку дзіцячае літаратуры, выдавецтва выдае іх у выглядзе сэрыі «Бібліятэка школьніка». Гэта палягчае настаўніку выбар адпаведнай літаратуры. Спэцыяльна прыродазнаўчую літаратуру для школ выдавецтва выпускае пад сэрыяй «Малады прыродазнаўца».

Пачата шырокая праца па выданьню вялікіх багата ілюстраваных сэрый «Культура і тэхніка» (гл. першы выпуск—Суднік «Цуда тэхнікі») і „Вакол Сьвету". Апошняя сэрыя будзе складацца з кніг краязнаўча-геаграфічнага і гістарычнага зьместу (гістарычныя падарожжы вакол сьвету, жыцьцё і быт розных частак СССР, падарожжы ў паўднёвыя і паўночныя краіны і г. д.

Падрыхтоўваецца да друку сэрыя „Па фабрыках і заводах"—навукова-папулярныя нарысы пра розныя галіны вытворчасьці: мэталюргічную, шкляную, гарбарную, мукамольную, хэмічную і г. д.

У гэтым годзе пачне выходзіць сэрыя таннай мастацкай белетрыстыкі, дапасаваных да школьных праграм і пасобных камплектаў.

Меншыя дасягненьні мы маем у галіне літаратуры для дашкольнага ўзросту. Тут, нажаль, пераважаць казкі і апавяданьні з жыцьця жывёл. Сучасная рэвалюцыйная і бытавая тэматыка прадстаўлена даволі слаба. На гэта хвараюць і іншыя выдавецтвы Саюзу, прадукцыю якіх беларускае выдавецтва скарыстоўвае спосабам перакладаў. Аўтараў дашкольнай кнігі ў нас яшчэ няма.

Кніжка для пераддашкольнага і дашкольнага ўзросту ёсьць самае слабае месца ў працы Белдзяржвыдавецтва па лініі дзіцячае літаратуры. Тут вялікую дапамогу мы чакаем ад настаўніцкіх колаў, якія добра ведаюць дзіцячую аудыторыю і могуць даць якраз той літаратурны матар'ял, які лёгка будзе ўспрыймацца маленькімі чытачамі. Чарговай задачай выдавецтва павінна быць—знайсьці шляхі да збліжэньня з настаўніцкім пэрсаналам дашкольных устаноў і заахвоціць яго пісаць кніжкі для сваіх выхаванцаў.

Ды наогул трэба сказаць, што беларускае настаўніцтва, нажаль, стаіць далёка ад справы падрыхтоўкі і выданьня дзіцячае літаратуры. Галоўная віна тут ляжыць на самім выдавецтве. Гэта яно павінна знайсьці шляхі і спосабы, як далучыць да гэтай адказнай культурнай справы шырокія колы беларускіх настаўнікаў.

На беларускім кніжным рынку ёсьць ужо, калі лічыць выданьні выдавецтва «Чырвоная Зьмена», каля 100 назваў дзіцячых кніжак. Кнігі друкуюцца, ідуць на рынак, іх нехта купляе, нехта чытае, але нідзе ня чуваць як успрыймае іх чытач. Ні выдавецтва, ні НК Асьветы, ні прэса (газэты, часопісі), ні настаўніцкія зьезды і канфэрэнцыі ня чуюць водгукаў, крытыкі на дзіцячую беларускую кнігу. У працаўнікоў выдавецтва ствараецца ўражаньне, што выданыя кнігі ідуць у нейкую пустэчу і там нязнаныя, ня бачаныя паміраюць бясслаўнай сьмерцю. Ні ганяць, ні хваляць—ніхто не падае голасу. Жудасная ціша пануе вакол беларускай дзіцячай літаратуры.

У той час, як у РСФСР і на Украіне ўжо даўно ідуць гарачыя дыскусіі, калі там вырасла вялікая крытычная літаратура пра дзіцячую літаратуру, у нас нідзе не спаткаем нават больш-менш сур'ёзнай, навуковай рэцэнзіі на тую ці іншую дзіцячую кніжку.

Бяз шырокай грамадзкай крытыкі, асабліва настаўніцкай крытыкі ў справе стварэньня кнігі для дзяцей, магчымы і няўхільны грубыя, цяжка папраўлямыя памылкі.

Дзіцячая кніга—гэта ня цацка, ня дрындушка, а магутны выхаваўчы сродак. Праз дзіцячую кнігу мы павінны праводзіць ідэі нашага клясавага, камуністычнага выхаваньня будучай зьмены. Ідэалёгія ў дзіцячай літаратуры павінна быць бездакорна вытрыманай, бо тут мы кладзём першы фундамант матар'ялістычнага сьветапогляду, адчыняем вакно ў сьвет, каб паказаць яго дзецям у нашым клясавым, пралетарскім разуменьні.

Гэты вучастак пэдагагічнага і наогул культурнага фронту мы павінны пільнаваць і не дапускаць стыхійнага прасочваньня шкодных для маладога пакаленьня ўплываў. А гэта небясьпека ёсьць. Аб ёй ужо сыгналізуюць у крытычнай літаратуры РСФСР, дзе дзіцячы кніжны рынак папаўняе ідэалёгічна нявытрыманая, а часам і шкодная дзіцячая кніга.

Каб ня зьбівацца з правільнага шляху, каб бачыць—куды ідзе і расьце беларуская дзіцячая літаратура, нам трэба ўвесь час чуць голас грамадзкай крытыкі, і ў першую чаргу настаўніцкай.

Беларускія настаўнікі—першае слова за вамі!

Прагна чакаем вашае крытыкі.

**Ів. Цьвікевіч.**

## Лётарэя „Савецкай Беларусі".

### Галоўныя выйгрышы дасталіся вясковым настаўнікам.

3 розыгрышаў лётарэі, абвешчанай газэтай „Савецкая Беларусь", галоўны выйгрыш—валёсыпэд—дастаўся настаўніку Трацькевічу (вёска Скрыль, Пухавіцкага раёну, № лёт. білета 2911, які выпісаў газэту на 14 месяцаў).

Упаўнаважаны раймясцкому саюзу працасьветы Пухавіцкага раёну сабраў найбольшы лік падпісчыкаў па абвешчанаму конкурсу, і яму вызначана таксама першая прэмія ў суме 165 руб. На другім месцы па конкурсу стаіць упаўнаважаны мясцкому Самахвалавіцкага раёну; ён таксама атрымаў першую прэмію ў суме 165 руб.

Швейныя нажныя машыны выйгралі па № 4060 настаўнік Абяткоўскі Сьцяпан (вёска Анэліна, Талочынскага раёну, Аршанскай акругі) і па № 1642 загадчык Навамірскай школы, Валынецкага раёну, Полацкай акругі. Настаўніца Стальмашэўская, Стайкінскай школы, і настаўнік Несьцераў П., Ракоўшчынскай школы, Расьянскага раёну, Аршанскай акругі выйгралі гарнітуры. 2 самавары выйгралі настаўнікі Ляўковіч, Саўскай школы, Горацкага раёну, Аршанскай акр. і настаўнік Рабінкін Красна-Знаменскай школы, Гарадоцкага раёну, Віцебскай акругі.

# Яны сацыялізм пабудуюць

Была вясна 1928 году. Яе ціхія прывабныя сьпевы абуджалі ўсё жывое ад сну і клікалі да новага жыцьця, да новай плённай жыватворчай працы.

Вучні **Лыскоўшчынскай школы, Круглянскага раёну** таксама падпалі пад уплыў гэтага закліку.

Вакол кіпела праца. Сяляне рыхтавалі свае вузенькія загоны да пасеваў, аралі гароды, вазілі гной.

Школа паставіла перад сабой мэту паказаць сялянству на практыцы сельска-гаспадарчую культуру. Школьны гарод разьбілі на шматпольле, і вучні, з дапамогай бацькоў і пад кіраўніцтвам настаўніка **Зубовіча**, пачалі рыхтаваць глебу для пасеву. Калі надышла пара сеяць, свае абшары школа засеяла ня так, як сеяла наваколічнае сялянства, а па-новаму; уся зямля была занята буракамі, аўсом, бульбай і канюшынай.

Усё ўзышло добра.

Надыйшлі пякучыя летнія дні. Вучні не забываліся пра свой гарод, яны старанна, пад наглядам настаўніка, даглядалі пасеяныя культуры. А яны расьлі. Часта прыходзілі паглядзець на іх і бацькі. Як моцна білася сэрцы ў дзяцей ад пахвальбы бацькоў!

Вось ужо пажоўкла на дрэвах лісьце. Падыходзіла восень. Вучні ўзяліся за ўборку свайго гароду. Цягнулася яна ня доўга, бо працавалі калектыўна. Частку сабранага ўраджаю пакінулі на насеньне, а рэшту прадалі, чысты прыбытак—87 рублёў.

У дзень ураджаю школа прадставіла на сельска-гаспадарчую выстаўку свае экспанаты, за якія атрымала дыплём 2-й ступені.

Гэта — сельска - гаспадарчая праца вучняў. Пры школе склаўся сельска-гаспадарчы гурток, у якім вучацца па новаму жыць і бацькі, гэты гарод зьяўляецца для гуртка грунтам усяе працы.

Ва ўсёй працы школы ўсё-ж прыходзіцца адзначыць адну хібу: распрацоўка комплексаў ня зьвязвалася з практычнай працай на гародзе. Напрыклад, калі прапрацоўвалася вясеньняя або асеньняя праца на полі, трэба было гэтыя тэмы зьвязваць з практыкай, а таксама не практыкаваўся мэтад мэтавых заданьняў у працы на гародзе. Але ўсё-ж гэта праца дала шмат.

* * *

Пачалася праца ў школе. Шмат сярод вучняў беднаты, патрабуючай дапамогі. Настаўнік і вучні пачалі клапаціцца аб гарачых сьнеданьнях у школе.

За сродкі, выручаныя з гароду і адпушчаныя сельсаветам з самаабкладаньня (у колькасьці 40 руб.), школа набывае ўсё патрэбнае дзеля гэтага. Купіла кіпяцільнік, пасуду, харч.

Сьнеданьне складаецца з наступнага: для бядняцкіх вучняў—гарбата, цукар і хлеб; серадняцкія атрымліваюць гарбату і цукер і больш заможныя карыстаюцца толькі гарбатай. Сьнеданьне не багатае, але вучні гапарацца, што самі здабылі.

Добра зараз працуе школьная гаспадарчая камісія, якая ў іншых школах ад беспрацоўя заснула моцным сном.

Наступную вясну вучні рыхтуюцца спаткаць яшчэ дружней, каб у залатую восень мець больш дасягненьняў і прыбытку.

З раз складзен вытворчы плян працы школы на ўвесь год. Школа больш-менш забясьпечана сельска-гаспадарчымі прыладамі. Лягчэй будзе засеяць гарод, бо маюць сваё насеньне. Кепска толькі, што няма гною.

Школа мяркуе купіць карову, пры якой вучні будуць вучыцца кармленьню жывёлы па нормах.

Ад школы вее новым подыхам. Кіпіць і крынічыць новае жыцьцё, даючы прыклад лепшага жыцьця.

Мы вітаем Лыскаўшчынскую школу.

**Міх. Званец.**

**М. Круглае, Аршаншчына.**

# СКЛОКІ НАСТАУНІКА З. РАСОЛЬКІ.

**(Сьмілавіцкі раён, Менскай акругі).**

На настаўніцкай канфэрэнцыі ў Сьмілавічах 10 студзеня была зачытана заява настаўніцы Пяскоўска-Сінінскай школы, Сьмілавіцкага р., **Крукоўскай В.**, аб тым, што ў часе справаздачнай кампаніі с/с настаўнік Матароўскай школы **Расолька Зьміцер** на падставе асабовых варожых да Крукоўскай адносін выступаў на сходзе супроць яе і гаварыў, што яна ня ўмее працаваць, не вядзе грамадзкай працы сярод насельніцтва. Нават падгаварваў вучняў яе школы сказаць, што яна дрэнна працуе і ўжывае фізычныя пакараньні. Далей Крукоўская кажа, што Расолька помсьціць ёй за тое, што яна ня ўступіла яму Пяскоўска-Сінінскай школы, пад бокам якой знаходзіцца яго гаспадарка. Тут-жа на канфэрэнцыі сам Расолька падцьвердзіў, што ён выступаў на сходзе супроць Крукоўскай, на што ў яго былі вельмі важкія матывы. Гэтых матываў, праўда, ніхто не зразумеў, убачыўшы ў іх толькі абразу Крукоўскай.

Канфэрэнцыя абурылася агідным выступленьнем Расолькі і выдзеліла камісію з трох асоб дзеля праверкі пададзеных фактаў, каб у выпадку сьцьвярджэньня іх прыняць рашучыя меры супроць паклёпу Расолькі.

12 студзеня камісія выехала на месца і выявіла наступнае: усе факты заявы Крукоўскай падцьвердзіліся. У вёсцы Сінінка запраўды ў Расолькі ёсьць досыць моцная гаспадарка (абложана індывідуальным падаткам) і паравы млын. У яго былі імкненьні (гэта ён сам сказаў) перамясьціцца ў Сінінскую школу, але за адсутнасьцю вакантнага месца (настаўніца Крукоўская—удава з малымі дзецьмі—ня мае патрэбы пераводзіцца куды-небудзь) яму не ўдаецца. Тады Расолька стаў ужываць самыя нізкія мэтады выжыцьця Крукоўскай з Сінінскай школы: падгаварваў сялян ня езьдзіць па дровы школе, зьбіраў па вёсцы подпісы на заяву супроць Крукоўскай і за гэта нават частаваў выпіўкай. Падгаварваў вучняў, каб яны сказалі на сходзе, што іх настаўніца кепска вучыць і б'е. Каб даказаць, што настаўніца Крукоўская не вядзе палітасьветнай працы сярод насельніцтва, ён папрасіў загадзя прабачэньня ў аднаго заможнага селяніна, каб той на сходзе ня прыняў за абразу, калі Расолька ня кажа, што той ня ведае, якая цяпер у нас улада.

Калі-ж камісія сустрэлася з працай настаўніка Расолькі ў Матароўскай школе, дык убачыла, што выхаваўчая праца ў яго зусім кульгае. На запытаньне: хто ў вашай школе ёсьць апрача беларусоў, вучні паказальнымі жэстамі адказалі: во—жыд, а во—шляхціц.

Камісія на чале з райінспэктарам, улічыўшы факты ганебных учынкаў настаўніка Расолькі і знаходзячы яго паводзіны нявыстарчальнымі для настаўніка, ухваліла зьняць яго з працы і справу перадаць пракурору дзеля прыцягненьня да адказнасьці за зламераныя ўчынкі.

**Z.**

